Цана нумару 20 гр.

№ 3 (27) Серада, 27 лютага 1929 г., м. Вільня. Год II

# ГРАМАДЗЯНІН

ОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НЕЗАЛЕЖНАЙ ДЭМАКРАТЫЧНАЙ ДУМКІ
ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ

Рэдакцыя і Адміністрацыя: WILNO, Zawalna 6—5. Тэлефон 14—35.

ПАДПІСНАЯ ЦАНА.
За 3 месяцы. . . . 2 зл.
1 нумар . . . . . . 20 гр.

АБВЕСТКІ ПА УМОВЕ



## Перад Жэнэваю

У першых днях сакавіка ў Жэнэве адбудзецца чарговая сэсія Рады Лігі Народаў на дзенным парадку якой між іншым стаіць і пытаньне аб нацыянальных меншасьцях. Гэта першы выпадак за ўвесь час істнаваньня Лігі Народаў, што на міжнародным форуме будзе паднята пытаньне аб нацыянальных меншасьцях у-ва ўсім яго абыйме.

Адбываліся ў Жэнэве, як ведама, конгрэсы нацыянальных меншасьцяў незалежна ад Лігі Народаў. Гэтак сама у Лізе Народаў разглядаліся жальбы паасобных нац. меншасьцяў, як, напр., на апошняй сэсіі Рады Лігі ў Лугано пытаньне аб нямецкім „фольксбундзе“ на В. Шлёнску. Але ўсё гэта былі адзіночныя факты, якія цікавілі больш паасобныя нацыянальныя меншасьці і вырашэньне гэтых жальбаў ня мела агульна-прынцыповага значэньня, якое, ласьне, будзе мець разгляд нацыянальнае праблемы на наступнай сэсіі.

Яшчэ на мінуўшай сэсіі Рады Лігі Народаў у Лугано нямецкі міністар заграчічных справаў Штрэзаман пасьля спрэчкі з міністрам Залескім заявіў, стукнуўшы па стале, што гэтае пытаньне ў-ва ўсім абыйме будзе высьветлена на наступнай сэсіі. І мы бачым ужо з газэтных вестак, што Канадзкі дэлегат Дандуранда унёс у Раду Лігі ноту ў справе нац. меншасьцяў, якая будзе пастаўлена на дзенны парадак. Гэткім чынам ініцыятыва паварушаньня гэтага пытаньня выйшла быццам не ад немцаў. Але ні для кога не сакрэт, што галоўным варушыцелем і абаронцам гэтага пытаньня будзе нямецкі дэлегат. І гэта зусім зразумела.

Ня трэба, хіба, даводзіць таго, што больш усяго незадаволены істнуючым пасляваенным ладам у Эўропе немцы, як нясучыя найбольшы цяжар рэзультатаў праігранае вайны. Гэтага ня скрывае аніводная з нямецкіх партыяў, пачынаючы ад крайніх правых (фашыстыя) да крайніх левых (камуністыя). І калі немцы згадзіліся увайсьці да Лігі Народаў, дык не дзеля таго, каб узмацняць сабою істнуючы эўропэйскі лад, установляны Вэрсальскім трактатам, а наадварот, каб атрымаць лепшую магчымасьць бурыць гэты лад.

Самым слабым мейсцам Вэрсальскага трактату зьяўляецца ласьне пытаньне аб нацыянальных меншасьцях, якое было вырашана „трыма“ папярова і аднабока. Выйшла, напрыклад, так, што пануючая чэская нацыянальнасьць у Чэхіі апынулася ў меншасьці сярод славацкае і нямецкае меншасьцяў. Харваты, вызваленыя з аўстрыяцкага „ярма“, зусім ня хочуць падпарадкавацца родным братом сэрбам. Наʻт Эльзас-Лётарынгія, з-за якой, можна сказаць, пачалася Эўропэйская вайна, заместа падзякі Францыі вызваленьня ад немцаў, трэбуе для сябе аўтаноміі і г. д.

Дык вось немцы і рашылі выкарыстаць гэты слабы бок Вэрсальскага трактату для сваіх мэтаў, узяўшы на сябе паважаную ролю абароны правоў нацыянальных меншасьцяў наагул. Фармальна яны апіраюць свой крок на тым, што маюць 20 мільёнаў немцаў па-за межамі і выконваюць усе варункі Вэрсальскага трактату.

Але немцы ня былі-б гэтак рашучыя

і вытрывалыя ў пытаньні аб нац. меншасьцях, калі-б ня мелі маральнага падтрыманьня з боку іншых дзяржаваў, якія пазбаўлены клопатаў і зацікаўлены ў утрыманьні эўропэйскага міру. Вэрсальскі трактат, Лёкарно і пакт Кэлога не дасягнуць свае мэты, калі ня будзе, нарэшце урэгуляваны лёс 40 мільёнаў Эўропэйскіх меншасьцяў. Калі раней Балканы былі сталаю пагрозаю міру, дык цяпер „балканізавана" уся сярэдняя і ўсходняя Эўропа.

Некаторыя з найбольш пагражаемых з гэтага боку дзяржаваў самі пайшлі на спатканьне справядлівым жаданьням сваіх меншасьцяў і амаль ужо вырашылі гэтае пытаньне. Напрыклад, у Чэха-Славакіі нац. пытаньне амаль зусім утраціла сваю вастрату. Немцы і Славакі маюць сваіх міністраў ў чэскім кабінэце (немцы—міністра юстыцыі і публічнае працы, славакі—міністра асьветы і інш.), Чэха-Славакія у гаспадарчым адносшаньні зусім здэцэнтралізавана і падзелена на 4 самаўрадавыя адзінкі: Маравы з Шлёнскам, Чэхію, Славакію і Прыкарпацкую Русь з правам карыстацца мяйсцовымі мовамі у-ва унутраным адміністрацыйна-гаспадарчым жыцьці і г. д.

Гэтак сама і у Латвіі зусім заспакоены усе нацыянальныя патрэбы нязначных у працэнтных адносінах нац. меншасьцяў. Расейцы, немцы, жыды, палякі і беларусы маюць свае школы, сваіх прадстаўнікоў у урадзе на становішчы віцэ-міністраў і дырэктароў дэпартамэнтаў. Нямецкі і расейскі тэатры і вышэйшыя курсы карыстаюцца дзяржаўнымі дапамогамі нароўні з латышскімі тэатрамі і унівэрсытэтам.

І толькі у Польшчы пытаньне аб нацыянальных меншасьцях, складаючых каля 40 прац. (13 мільёнаў на 17 міл. палякаў) пасьля 10 гадоў незалежнага існаваньня Дзяржавы ня тольні ня вырашана, але на‘т з кожным годам яшчэ больш абвастраецца і заплутываецца. Ні немцы, ні украінцы, ні беларусы, ні літоўцы, ні на‘т жыды, якіх быццам фаворызуюць у апошні час, незадаволены сваім становішчам. Гэта лепш усяго уяўнілася ў Сойме ў часе апошняе сэсіі Мы ня будзем тутака вылічаць прычынаў незадаволенасьці гэтых меншасьцяў, як роўным чынам даводзіць значэньне гэтага факту нездаволенасьці 40 прац. насельніцтва для Дзяржавы. Усё гэта усім добра ведама.

Але ня трэба быць вялікім палітыкам, каб не прадбачыць тых вялікіх клопатаў, якія прыдзецца мець Польшчы ўнутры і польскай дэлегацыі на міжнародным форуме, калі ня зьменяць цяперашняга кірунку палітыкі ў сваіх адносінах да нацыянальных меншасьцяў.

---

# Аб школьнай справе.

„Беларуская Крыніца"—пасольскі орган Беларускай Хр. Дэмакратыі ў № 4 піша:

„У двух ваяводзтвах, Віленскім і Наваградзкім, якія належаць да аднае Віленскае Школьнае Куратарыі, паводле польскай статыстыкі за школьны 1927—28 год існуе 2164 польскія школы.

На гэтым-жа самым абшары, паводле даных, прысланых Куратарыяй у Т-ва Беларускай Школы 30. XI. 28, лік беларускіх школ за мінулы школьны год выглядае гэтак: у Віленскім ваяводзтве ўрадавых беларускіх школ — 11, прыватных — 3, польска-беларускіх — 18. У ваяводзтве Наваградзкім ўрадавых беларускіх школ — 10, прыватных — 1, польска-беларускіх—26. Усіх беларускіх і утраквістычных школ у двух успомненых ваяводзтвах—69.

Такім чынам бачым, што на аднэй і тэйжа самай тэрыторыі польскіх школ існуе — 2164, беларускіх (з утраквістычнымі) толькі 69, усіх-жа няпольскіх — 299. Тымчасам паводле *польскай* статыстыкі з 30. IX. 21 г. лік Беларусаў у Віленскім і Наваградзкім ваяводзтвах сярэднім становіць 33 працэнты, г. зн. адну траціну ўсяго насельніцтва ў двух названых ваяводзтвах. Па праву трэба было-б, каб і лік школ беларускіх у гэтых ваяводзтвах выносіў *прынамся* адну траціну ўсіх школ там-жа, г. зн. 821=(2164 x 299: 3) школ. А маем—69. Календар Бел. Выд. Т-ва за 1929 г. аблічае, што ў двух гэных ваяводзтвах адна польская школа прыпадае на 500—600 чалавек, а адна беларуская школа на 10 тысяч чалавек. Пры гэтым мусім так-жа адзначыць, што статыстыка з 30. IX. 21 г. падае Беларусаў многа менш, чым іх ёсьць сапраўды. Трэба ведаць, што яна ня толькі Беларусаў-каталікоў, якіх ёсьць у ўспомненых двух ваяводзтвах каля мільёна, залічыла ў палякі, але такжа і многіх праваслаўных Беларусаў назвала палякамі.

Прыпамінаем так-жа, што гаворачы вышэй аб беларускай школе, мы цалком памінулі ваяводзтвы Беластоцкае і Палескае. У Палескім ваяводзтве Беларусы ў Косаўскім павеце зложылі 531 дэклярацыю на беларускія школы, а ў павеце Пружанскім 802

дэклярацыі. Школы аднак насяленьне наша ня мае там аніводнай. У ваяводзтве Беластоцкім у большасьці паветаў насяленьне бадай выключна беларускае, якому без цэрэмоніі накінута школа польская. Урэшце также мусім узяць пад увагу, што 44 (18 x 26) польска-беларускія школы ў Віленскім і Наваградзкія ваяводзтвах—гэта ўсе сапраўды польскія школы, з вучыцелямі пераважна палякамі.

Усе стараньні беларускага грамадзянства, каб адчыніць Беларускую Вучыцельскую Сэмінарыю не давялі да пажаданага выніку. На дамаганьне Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры 'аб дазволе адчыніць Беларускую Вучыцельскую Сэмінарыю, Віленскі Школьны Куратар адказаў, штс дазвол на такую сэмінарыю дастаць можна было-б, але без грашовай дапамогі. Гэта знача, што народ наш плацячы школьныя падаткі ўтрымоўвае школы толькі польскія, а на свае беларускія, калі хоча іх мець, мусіць плаціць асобна. Пры такіх умовах утрыманьне Сэмінарыі, пэўне-ж, вельмі труднае.

Беларускую Гімназію ў Радашкавічах дзеля ейнай „нізкай роўні навуковай“, замест дапамагчы стаць ёй на ногі, улады зачынілі. Як даведываемся, такі лёс чакае Беларускую Гімназію і ў Клецку.

Аднэй толькі Віленскай Белерускай Гімназіі сучасны польскі ўрад надаў правы публічнасьці і прызнаў грашавую дапамогу. Але мусімо адзначыць, што ўсе гэтыя „ласкі“ польскага ўраду ёсьць капляй у моры і што беларускае грамадзянства ня спыніцца ў дамаганьні сваей роднай школы, пакуль не здабудзе яе ў ліку прапарцыянальным да ліку беларускага насельніцтва ў нашым краі.

Гэтулькі аб беларускай асьвеце пад Польшчай.

Вось гэткі стан рэчаў у галіне беларускагата школьніцтва мы бачым у той час, калі Польшча адсьвяткавала 10 угодкі свайго ўваскрашэньня. Сумны стан. І ня дзіва, што пэрыёд „Сярэдняе Літвы“, калі беларусы больш-менш ня лічыліся грамадзянамі ІІ катэгорыі, успамінаецца беларускім грамадзянствам з некаторым задаваленьнем і каб такі стан трываў-бы і надалей, дык пэўнеж „Штрэсэманаўскі стук па стале“ быў-бы толькі сьмеху варты, а беларуская інтэлігэнцыя не ласьцілася-б на ўсход, а было-бы наадварот.

# Палітычная хроніка.

## ПОЛЬШЧА.

### З СОЙМУ.

У Сойме распачалася дыскусыя над праэктам зьмены істнуючай Канстытуцыі, унесены Б.Б. Новы праэкт прадбачыць узмацненьне улады прэзыдэнта рэспублікі і ўраду і аслабленьня уплыву Сойму і Сэнату.

### АБАРОНЦЫ СУСЬВЕТНАГА МІРУ.

Амэрыканскі міністар заграніЧных спраў Кэлог выпрацаваў вядомы пакт агульнага міру і запрапанаваў яго эўропэйскім дзяржавам. Праўда, самі амэрыканцы ня вераць у свой пакт, як ня вераць і ў Вільсонаўскую Лігу Народаў, да якой наʻт ня уступілі. Амэрыканскі сэнат, ратыфікаваўшы нарэшце гэты пакт, прыняў праэкт аб будове 15 крэйсароў і іншых узбраеньнях на сушы і на вадзе.

Але затое бальшавікі, каб хоць чым угадзіць амэрыканскім буржуям-мільянэрам, першы раз далучыліся да міжнароднага буржуазнага пакту і наʻт з свайго боку выступілі з прапазыкаю да заходніх суседзяў падпісаць асобны пакт узаемнае бясьпекі на падставе пакту Кэлога. Гэтую прапазыку ужо прынялі і падпісалі ў Маскве Польшча, Румынія, Латвія і Эстонія. Толькі Літва адмовілася. Вось цяпер пабачым, як гэты новы мір на ўсходзе адабʻецца на далейшых узбраеньнях.

### НАДКАМІСАР ПАЛІЦЫІ—КАНТРАБАНДЫСТ

Нядаўна польскія газэты падалі аб арышце пагранічнымі ўладамі кантрабандыста шоўку, якім аказаўся... надкамісар паліцыі ў Варшаве д р Габрыель Лякс. Галоўны камэндант варшаўскае паліцыі п. Малешэўскі паслаў Лякса да Вены на спэцыяльны курс крыміналістыкі. Па вавароце Лякс заняў пасаду афіцэра для важнейшых даручэньняў пры галоўным урадзе паліцыі.

Як відаць, загранічная навука не прапала дарма.

## ЗАГРАНІЦАЮ.

### ПЫТАНЬНЕ АБ НАЦ. МЕНШАСЬЦЯХ У ЛІЗЕ НАРОДАЎ.

Ліга Народаў ужо апублікавала мэмарандум прадстаўніка Канады Дандуранда па пытаньню аб нац. меншасьцях, які істнаваў дагэтуль, але ён ня можа здаволіць гэтыя меншасьці дзякуючы бязчыннасьці і няцікаўленьню Рады Лігі. Меншасьці падаюць жальбы, хаця ня ведаюць, ці дасьць гэта якія вынікі. Дзеля гэтага Дандуранда прапануе: 1) на будучы час аўтары пэтыцыяў павінны падаваць свае жальбы толькі адносным урадам і толькі пасьля няўдачы скіроўваць да Лігі Народаў; 2) цяперашні камітэт „трох“ павінен быць заменены прадстаўнікамі усіх дзяржаваў, уваходзячых у склад Рады Лігі; 3) пасьля прыняцьця пэўнае дэцызіі боль-

шасьцю галасоў справа передаецца на разгляд у Раду Лігі. Нямецкія газэты паведамляюць, што прапазыка Дандуранды згаджаецца з прапазыкаю Штрэзэмана.

## ВЫСЫЛКА ТРОЦКАГА З РАСЕІ.

Пасьля сьмерці Леніна і заняцьця яго мейсца грузінам Сталінам жыды папалі ў Маскве у няласку. Жыды Радэк, Зіноўеў, Троцкі, Каменеў, Фрумкін і іншыя былі пазбаўлены камісарскіх становішчаў і на'т высланы у ссылку. Троцкі прасядзеў больш году ў Верным на кітайска-туркестанскай граніцы. А пасьля таго, як нядаўна была раскрыта змова „троцкістаў", Троцкага зусім выслалі з Расеі. Цяпер ён пакуль сядзіць у Канстантынопалі і просіць нямецкія ўлады выдаць яму дазвол на ўезд да Нямеччыны.

Вось дык дастукаўся! Стварыў чырвоную армію, абараніў „сацыялістычную бацькаўшчыну", а яго адтуль свае-ж вытурылі вон.

## УНУТРАНАЯ ВАЙНА Ў АЎГАНІСТАНЕ.

Унутраная вайна ў Аўганістане цягнецца далей. Адмовіўшыся ад трону б. кароль Аманулях не прызнае улады свайго заступніка і распачаў процi яго ваенныя крокі на чале з паўстанцамі заходняе часткі Аўганістану. Усе іназемцы эвакуіраваны з Кабулу на аэраплянах. Амануляха, як ведама, падтрымліваюць бальшавікі, а яго ворагаў—англічане. У-ва усім краю пануе анархія, грабеж, а ў некаторых мейсцах голад.

## УЗДРЫГІ ГІШПАНСКАЙ ДЫКТАТУРЫ.

У некаторых гарнізонах у Гішпаніі выбухлі вайсковыя паўстаньні процi істнуючае дыктатуры, якія з вялікімі ахвярамі былі стлумлены. Арыштавана шмат афіцэраў. Увесь корпус артылерыйскіх афіцэраў распушчаны і разлічаны. На службу будуць прыймацца толькі тыя, хто зложыць спэцыяльную прысягу на вернасьць службы сучаснаму ўраду.

## КОНФЭРЭНЦЫЯ ЭКСПЭРТАЎ.

У Парыжы ужо каля двух тыдняў засядае камісія экспэртаў у ліку 14, абгаварываючая пытаньне аб нямецкіх рэпарацыйных плацяжох (кантрыбуцыі). Немцы, як ведама, цяпер плацяць пераможцам кантрыбуцыю па 2,5 мільярдаў нямецкіх марак (каля двух польскіх гадавых бюджэтаў). І гэткую суму трэба выплачваць каля 60 гадоў. Немцы заявілі, што яны ня ў сілах выплачваць гэтае сумы. Камісія экспэртаў ласьне і мае сваёю мэтаю высьвятліць нямецкую плацяжную здольнасьць. Вось як выглядае мір на падставе Вільсонаўскай прапазыкі „без анэксыі і контрыбуцыі!"

# Тутэйшая хроніка.

КАМІТЭТ ДАПАМОГІ ПАЦЯРПЕЎШЫМ АД НЕЎРАДЖАЮ. 14 лютага на сабраньні у гмаху Віленскага ваяводзтва прадстаўнікоў духавенства усіх веравызнаньняў, колаў абшарніцкіх, купецкіх, прамысловых, вучыцельскіх і урадоўцаў пад старшынствам п. Ваяводы Рачкевіча абгаварывалася пытаньне аб аказаньні дапамогі пацярпеўшым ад неўраджаю у Віленскім ваяводзтве. Пан ваявода далажыў, што на яго просьбу ўрад асыгнаваў на гэтую мэту паўтара мільёна злотых. Але гэтага недастатачна, бо самая неадкладная патрэба дапамогі аблічаецца у 3,5 міл. зл. Дзеля гэтага побач з дапамогаю дзяржаўнаю неабходна і грамадзянская, асабліва тых тэрэнаў Дзяржавы, дзе быў добры ураджай.

Паводле сабраных ваяводзтвам даных, найбольш пацярпелі ад неўраджаю паветы: Браслаўскі і Дзісьненскі, затым Пастаўскі, Маладэчанскі, Сьвянцянскі, Вялейскі, Ашмянскі і Віленска-Троцкі. Лічба асобаў, якія патрабуюць дапамогі для пракорму да новага ўраджаю дасягае 60,000. Лічба школьных дзяцей, патрабуючых, дакорму 21,000.

Пасьля дыскусіі быў утвораны камітэт дапамогі і выбраны ўрад камітэту у складзе 9 асобаў пад старшынствам п. Ваяводы.

Паводле аблічэньня старастаў на акцыю дапамогі патрэбна сума у 3,5 міл., зл. А дзеля непрадбачаных сільных марозаў, прычыніўшых вельмі шмат шкоды (пала шмат жывёлы, памерзла бульба і інш.), патрэба яшчэ больш павялічылася.

ПАСЕЎНЫЯ КРЭДЫТЫ. Аддзел Дзяржаўнага Рольнага Банку ў Вільні атрымаў 100,000 зл. на пасеўныя веснавыя крэдыты. Тэрмін сплаты гэтых крэдытаў вызначаны на 30 кастрычніка гэтага году. Крэдыты атрымаюць каапэратыўныя інстытуцыі, камунальныя і пазычковыя, на працэнты на нармальныя забасьпячэньні.

13,000 ЗЛ. ДЛЯ ЖЫДОЎ і 3,000 ДЛЯ ПАЛЯКАЎ. Віленская эндэцкая газ. „Дзен. Віленскі" скардзіцца на тое, што культурально-асьветная камісія віленскага магістрату на адным з сваіх паседжаньняў асыгнавала 3,000 зл. на польскія культурна-асьветныя установы места Вільні і 13,000 на жыдоўскія.

Не падзяляючы трывогаў „Дз. Віленск.", аднак-жа павінны адцяміць заслугоўваючы на ўвагу факт сталага ўзросту жыдоўскага уплыву у краю. З жыдамі лічацца і ім даюць грошы і на школы і на культурна-асьветныя арганізацыі. Жыдоў ужо прыймаюць

на службу да розных дзяржаўных урадаў. У Віленскай Касе Хворых ужо больш паловы служачых жыды. Гэтак сама ёсьць шмат і ў магістраце. На'т ёсьць афіцэры.

Цікава тое, што калі на гэтым паседжані магістрацкае камісіі дзялілі грошы між польскімі і жыдоўскімі інстытуцыямі, дык ня было асыгнована ніводнага злотага на беларускія школы ці культурныя таварыствы ў Вільні.

СЯРОД ПРАВАСЛАЎНЫХ. Інспэктар Віленскай Бел. Гімназіі гр. Міхалевіч назначаны Інспэктарам Віл. Дух. Сэмінарыі. Польскія газэты бачаць у гэтым нібыта „беларусізацыю Сэмінарыі" і дзеля гэтага стараюцца ужо здыскрэдытаваць п. Міхалевіча. Мы з свайго боку вітаем гэтае назначэньне, бо уважаем гр. Міхалевіча за асобу апалітычную і ўсімі паважаную.

СПРАВА „АНАФЕМЫ". Пасол Каруза з бел. пасольскага Клюбу зрабіў „ўнёсак" на паседжаньні Сойму 22 лютага „каб Сойм палажыў крыж на палітычнай дзейнасьці Арцыбіскупа Ялбжыкоўскага, узасадняючы гэта той адозвай Арцыбіскупа, у якой ён называе акцыю Бел. Хрысьц. Дэмакратыі ня згодную з сумленьнем каталіка, а дзеля гэтага і забараняе да яе належаць.

Гэты „ўнёсак" быў падпісаны, апрача бел. клюбу, украінцамі і „Вызваленьнем". Пасьля дыскусыі на прапазыцыю пасла з Б. Б. п. Акуліча, Сойм ухваліў вярнуць усю гэтую справу Маршалку Сойму з тым, каб ён пераслаў яе да іншай больш кампэтэнтнай камісіі. За ўхвалу галасавалі: Б. Б., П.П.С., Вызваленьне, Стронніцтво Хлопске і нацыянальныя меншасьці. Рэшта галасавала проці.

ТАВАРЫСКІ ВЕЧАР СТУДЭНТАЎ. У нядзелю 10 лютага адбылася у памешканьні Літоўскага Камітэту наладжаная віленскімі літоўскімі студэнтамі таварыская вечарына віленскіх студэнтаў беларусаў, літвіноў і украінцаў. „Бел. Крыніца", паведамляючы аб гэтым, піша: „што і Беларусы будуць мусіць рэванжавацца. Як? — пабачым. Зазначыць толькі трэба, што ад гэтага рэванжу павінна залежыць ня толькі ўсяму беларускаму студэнству, але і цэламу беларускаму грамадзянству.

Пачата вялікая праца".

Мы са свайго боку мусім адцеміць, што распачатае цяпер калегаваньне студэнтаў беларусаў і літвіноў ня ёсьць навінай для віленскага беларускага і літоўскага грамадзянства, бо пачатак гэтага братэрства ідзе з даўнейшых часоў. У г.г. 1918 да 1923 беларускае і літоўскае грамадзянства жылі у Вільні амаль што ня супольным жыцьцём і каб ня высылка „33", дык гэтае сужыцьцё, маючае у падставе сваёй аднолькавасьць і супольнасьць інтарэсаў, магчыма вылілася-бы ў іншы палітычны кірунак зусім не адпавядаючы як для нас, так і для літвіноў сучаснаму стану рэчаў.

„КОЎШ НА УСЛУГАХ" — гэтак піша „Бел. Крыніца" аб сьвяшч. Каўшу—вядомаму з працэсу „Грамады", які ў рэдагаванай праз яго часопісі „Бел. Зарніца" нібы „захвальвае Арц. Ялбжыкоўскага — за яго сапраўдны воблік хрысьціяніна" адносна выдадзенай адозвы проці партыі і газэты Бел. Хр. Дэмакратаў.

ВОДГУКІ ПАСОЛЬСКАГА МІТЫНГУ. Як піша „Бел. Крыніца", віленскі Ваявода п. Рачкевіч паведаміў пасла А. Стэповіча аб тым, што заступнік камэнданта паліцыі ў Сьвіры пакараны арыштам.

---

МАЛЕНЬКІ ФЭЛЬЕТОН.

## „Z białoruskiego życia".

У рэдакцыі „Дзеньніка Віленьскего" праца ўжо заканчвалася. Усе рэпарцёры здалі свае зацемкі і не хапала толькі яшчэ інфармацыяў аб беларускіх справах.

— Пся крэв! гдзе тэн лайдак шлэнда сень?! нэрваваўся п. Обст...

Але „лайдак" быў лёгкі на ўспамінак— пачуўся нясьмелы стук у дзьверы і нявыразная, цёмная фігура засела ля стала...

— До холеры ценжкей!—аблаяўся пан Обст — чэкам на пана амаль 2 годзіны! Ну што новага тамака у „хамув"?!

— Вось... хадзіў, зьбіраў — пачаў рэпарцёр — але... навінаў, здаецца, нямашака ніякіх.

— Дык на якога-ж чорта я чакаў на вас?!.

— Хіба са старога што-небудзь — запрапанаваў рэпарцёр і выцягнуў некалькі зацемак...

— Ну давай са старога... Гэта што?!

— Гэта аб Вернікоўскім — рэдактары „Грамадзянін"!.. недавер яму тутака ад Паўлюкевіча з Якімовічам і Станкевічанкай. Праўда, год назад і анулявана Маладэчанскім зьездам, але...

— Добра, добра... падыдзе. Не пашкодзіць, бо пачаў ён нешта пісаць ня тое, што трэба... Ды толькі слова „рэдактар" зьмяні на „арганізатар лато..." Хай не забываецца?!. Далей што?

— Далей... Таксама старое... з Віленскай Бел. Гімназіі... Тутака аб Астроўскім, Луцкевічу, Каўшу...

— Ага, ага! І гэта добра. Дадай толькі, што „вядомыя з працэсу Грамады"... Усё?!

— Усё здаецца?! Хіба яшчэ пра „хадэкаў" і „Бел. Крыніцу..."

— Ну, пэўне-ж!.. А што?!

— Рух пачаўся ў іх. Пасьля адозвы арцыбіскупа Ялбжыкоўскага што дзень лік сяброў і падпішчыкаў пашыраецца.

— Цо? Глупство гадаш?! Пішы наадварот. Пішы, што пасьля адозвы ўсе сябры выпісваюцца, а „Крыніцу" зьвяртаюць назад... Розумеш?!

— Хі,-хі-хі! засьмяяўся рэпарцёр — мы з панам Обстам добра разумеем адзін аднаго!.. і рэпарцёр працягнуў руку...

— Што?! Ізноў?! А—і Обст ухапіўся за

Пратэст вэксалёў. У сьнежні мінулага году агульны лік запратэставных вэксалёў на тэрэне Віленскага ваяводзтва дасягнуў 13,686 на суму 2,416, зл., а на тэрыторыі Навагрaдзкага ваяводзтва—6,553 на суму 977,000 зл.

„За кулісамі полёнафілаў“. Па чуткам гр. У. Паў—скі падбірае матэр'ял для выдачы брашуры пад назовам „За кулісамі полёнафілаў“. Матэр'ял ахоплівае пэрыёд г. зв. „Паўлюкевічаўшчыны. Сярод цікавага матэр'ялу ёсьць „тайныя“ лісты А. Паўлюкевіча да сваіх правінцыянальных супрацоўнікаў.

Лекцыі у Студэнтскім Саюзе. 17 і 24 г. м. адбыліса лекцыі: 17—лекцыя інжынера Клімовіча на тэму „Студэнскім Шляхам“ і інж. Л. Дубейкоўскага—Аб рэформе ў дзераўляным будаўніцтве“.

24 лекцыі: інж. Л. Дубейкоўскага на тэму — „Беларуская архітэктура' і інж. А. Трэпкі — „Каапэрадыя — ідэал грамадзкага ладу.

Новая часопісь: Гэтымі днямі вышла новая бел. часопісь „Сям'я і Школа“ нумар 1.

„Аматарскі Зборнік“—Я. Дамарослы. Выданьне Я. Харытоновіча. Цана 65 гр. 32 старонкі вершаў, вялікага фармату.

Спэктакль у Вялейцы і Куранцы Аматарскай трупай Акр. Рады Т-ва „Прасьвета“ ладзяцца на масьляным тыдні беларускія спэктаклі.

—з—

# Куды Эміграваць.

## І. КАНАДА.

З пазаэўропэйскіх краёў найбольш польскае эміграцыі скіровываецца да Канады, дзе ёсьць найлепшая магчымасьць атрымаць працу. Але і там з кожным годам робяцца ўсё большыя перашкоды прыйму эмігрантаў.

Канадзкі урад дапушчае толькі наступныя катэгорыі эмігрантаў:

1) Асобы, маючыя спэцыяльны дазвол на прыезд канадзкага дэпартамэнту эміграцыі і колёнізацыі. Аб гэткіх дазволах клапоцяцца крэўныя, пражываючыя ў Канадзе.

2) Асобы, маючыя іменны выклік на працу ў Канадзе, калі гэты выклік будзе сцьверджаны адным з Канадзкіх каляёвых таварыстваў, якім Канадзкі ўрад надаў правы ў эміграцыйных справах.

3) Асобы, якія будуць прынятыя знаходзячыміся ў Польшчы дэлегатамі Канадзкіх чыгунак. Лік асобаў, якіх могуць прыняць дэлегаты чыгунак, абмяжованы і акрэсьляецца на кожны год Канадзкім урадам.

Да гэтае апошняе катэгорыі прыймаюцца толькі:

а) Земляробскія работнікі, добра ведаючыя свой фах, здаровыя, фізычна здольныя да фізычнае працы, умеючыя чытаць і пісаць, маючыя грошы на аплату каляёваго і параходнага білету у суме 157 дал. 50 цэнтаў

---

галаву—даў-жа я ўчора, даваў пазаўчора...

— Учора? Гэта-ж за „балалаечнікаў“ пазаўчора за „паніхіду па Калчаку“, як той казаў — гэта-ж за расейцаў, а тутака за беларусаў...

— Маеш. Каб ты падавіўся — і Обст, дастаўшы 5 залатовак, сунуў рэпарцёру...

— А я маю яшчэ нешта. Вось у Менску стварыўся Віленскі Камітэт па беларускім справам. Каб ён-бы нам у чым не пашкодзіў...

— І я так думаю, але у склад ягоны увайшлі як на грэх усё паважаныя асобы...

— Хі-хі-хі! — ізноў захіхікаў рэпарцёр, падмігнуўшы Обсту. — Што знача для нас „паважаныя?“

— Ой ты ў мяне разумны!—і Обст тыкнуўшы ў бок рэпарцёра сам заліўся сьмехам—ну садзіся пішы... Хто тамака ў складзе?

— Першым вось... Смоліч і Чыжэўскі, вядомыя бел. каапэратары—адзін быў ў наглядная Радзе, другі...

— А-а! Каапэратары?! Пішы: „абакралі каапэратыў і зьбеглі у Менск...“ Далей хто?!

Далей ідзе Красінскі, былы інспэктар Віл. Бел. Гімназіі.

— Пішы: абакраў Гімназію...

— Не паверац, пане Обст, дальбог, не паверац. Уся гімназія адна галыцьба і самі вучыцялі на'т пэнсіі не атрымлівалі...

— Ну дык прыдумай нешта... А можа ён яшчэ чым займаўся?

— А як-жа? Быў кіраўнікам майстроўні мастакоў-аматараў...

— Майстроўні?! Дык пішы, што „украў піяніна і зьбег у Менск...“ Яшчэ хто тамака ёсьць?!

А шмат яшчэ. І усё асобы паважаныя— Генадзі Багдановіч, Павал Біндзюк, Родзевіч, Жаўрыд...

— Пішы, што камуністыя, чэкісты — і Обст задаволены паціраў рукі...

— А ты што скрабеш патыліцу, быццам чымсь незадаволены — можа мала даў? — і Обст ізноў палез з шуфлядку.

— Не!.. Я нічога... Гэта-ж мая спэцыяльнасьць.. Вось толькі баюся, каб нам не дасталася, як некалі ад тых у 1926 годзе...

— Што ты, што ты! Кінь! Папершае: „тыя“ былі тутака ў Вільні і маглі бараніцца, а „гэтых“ няма на'т і у Польшчы; па-другое: тыя былі „санатары“, ды ўсёж-такі свае палякі, а гэтыя... беларусы...

— І то праўда, згадзіўся рэпарцёр...

А на наступны дзень чытачы эндэцкага „Дзеньніка Віленьскего“ інфармаваліся з гэтае газэты аб „справах бялорускіх...“

*Г—ка.*

і 25 даляраў на кошт першых дзён жыцьця у Канадзе.

б) Сем'і асаднікаў (колёністаў) пры наступных варунках:

Галава сям'і ня можа быць старэйшы 50 г., дзеці вышэй 18 г. павінны быць земляробамі, мужчыны старшыя 15 г. павінны умець чытаць. Аднак-жа сем'і, маючыя на аплаце выдаткаў на падарожжу, ня менш 400 даляраў, прыймаюцца без усялякіх абмежаваньняў адносна веку і складу сям'і.

Сем'і з капіталам у 200 дал. ці 250 не павінны мець больш двух дзяцей ніжэй 12 г. і адно толькі ніжэй 5 г.

в) Дамовая абслуга, ад 21 г., умеючая чытаць і пісаць, прадставіўшая пасьведчаньне аб маральнасьці.

Жадаючыя ехаць павінны дакладна выпаўніць формуляр просьбы аб пасьведчаньні на эміграцыйны пашпарт і зацьвердзіць яго ў гміне.

З гэтым паданьнем трэба асабіста зьвярнуцца да "Паньствовэго Ужэнду Посьрэдніцтва Працы", (Вільня, вул. Субоч 20 А.), дзе падаюцца „поданя" і дзе кандыдат на выезд падлягае агляду, ці адпавядае ўсім вымаганьням.

Асобы, атрымаўшыя іменныя выклікі, ад крэўных ці знаёмых у Канадзе, гэтак сама павінны зьвярнуцца да П.У.П.П„ дзе павінны даказаць, што выклікаючыя іх асобы ёсьць запраўды крэўныя ці знаёмыя.

Кандыдаты, прынятыя П.У.П.П., зьвяртаюцца да выбранага параходнага таварыства для запэўненьня сабе мейсца і лякарскага агляду, ці адпавядаюць канадзкім санітарным вымаганьням. Вынік лякарскага агляду і запэўненьня мейсца сьцвярджаецца параходным таварыствам у адпаведнай рубрыцы „поданя".

У параходных таварыствах кандыдаты атрымаюць паведамленьне аб мейсцы і часе агляду іх прадстаўніком чыгуначнага Т-ва, які асабіста праверыць, ці адпавядаюць вымаганьням канадзкіх працадаўцаў.

Эміграцыйны Урад на падставе вынікаў аглядаў, а занатованых на „поданях", перасылае пасьведчаньні на эміграцыйны пашпарт і можна рыхтавацца да выезду.

За ўсімі інфармацыямі эмігранты павінны зьвяртацца ці да П. У. П. П., ці да Эміграцыйнага Ураду (Варшава, Каралеўская вул. 23, аддзяленьне яго у Львове, Кармэліцкая вул. 4), ці да Польскага Эміграцыйнага Ураду (Варшава, Алея Ерусалімская 33).

## РАДАСЬЦЬ ЖЫЦЬЦЯ.

У 10 угодкі істнаваньня польскага „парлямантарызму" маршалак Сэнату Шыманскі выгласіў каля двух тыдняў назад вялікую прамову, поўную оптымізму. Між іншым, ён сказаў, што „радасьць жыцьця цяпер у Польшчы агульная".

Прамова гэтая выклікала рэзкую крытыку як з боку сэнатараў розных палітычных кірункаў, гэтак і прэсы, якая ня спынялася да гэтае пары. „Рэчпасполіта" піша што маршалак Сэнату ня бачыць жыцьцёвых фактаў і ня ўмее зрабіць з іх вывады.

Разглядзеўшы па чарзе варункі гаспадарчага жыцьця паасобных групаў насяленьня, як абшарнікаў, ня маючых таннага крэдыту малазямельных землябаў, церпячых зямельны голад, меставых работнікаў з галоднымі заработкамі і антыгігіэнічнымі памешканьнямі, галадаючай інтэлігэнцыі, перажываючых крызіс гандлю і прамысловасьці і г. д.—задае пытаньне:

„Дзе-ж матэр'ял для радасьці, дзе крыніца задаволенасьці?"

Аб „радасьці жыцьця" піша і сацыялістычны „Напшуд:"

„Магчыма, што ў варшаўскіх данцынгах радасьць жыцьця ёсьць агульная. Ёсьць у Польшчы людзі, якія могуць радавацца з жыцьця сучаснае хвілі. Але работніцкая кляса, уцісканая безрабоцьцем, бяздомнасьцю, самымі нізкімі ў Эўропе заработкамі, толькі з прамовы п. Шыманскага даведалася аб тым раю на зямлі, які пануе цяпер у Польшчы..."

„У сьнежні 1928 г. у Польшчы было запратэстована 313,128 вэксалёў!" Гэта у кожным разе не азнака „радасьці жыцьця", калі гандаль і прамысловасьць ня можа выкупіць сваіх вэксалёў і дапушчае іх да пратэсту, падрываючы гэтым крэдытны давер, без чаго ня можна цяпер абыйсьціся. Праўда, натарыусы на гэтым нажываюцца і маюць падставы для „радасьці жыцьця".

Пасол Домбскі ў „Газэце Хлопскей" піша: „Польшча ёсьць яшчэ краем досьць багатым дрэвам, але драўляная гаспадарка ў нас рабунковая ня толькі ў лясох прыватных, але і ў дзяржаўных. Неапрацаванае нашае дрэва ідзе масава за граніцу па зьніжанай цане тады, калі дзесяткі тысячаў сем'яў жыве яшчэ ў зямлянках па 10 гадох як закончылася вайна. Людзі гэтыя не адбудаваліся і ніколі ўжо не адбудуюцца у нашым багатым у дрэва краю, бо гэтае дрэва прадназначана для заграніцы, а не для ўласных грамадзян. Ці-ж гэта не праступленьне? Я-бы пана маршалка Шыманскага, ці іншых „едынкароў" выслаў-бы хоць на некалькі ночаў у такую зямлянку, або ў бедную сялянскую халупу, дзе не хапае апалу, каб ён хоць кароткі час скаштаваў тае „агульнае радасьці жыцьця", якая пануе сёньня ў Польшчы, багатай у вугаль і багатай у дрэва".

А дзе-ж тая „радасьць жыцьця" больш як 100,000 беларусаў, якія церпяць голад ад неўраджаю, жывуць у гэтыя маразы ў зямлянках і паўразваленых хатах?

Дзе „радасьць жыцьця" у беларускае інтэлігэнцыі, якая валэндаецца бяз службы і працы?

Сэнатар, атрымліваючы 1300 зл. у месяц, разьяжджаючы бясплатна у першай клясе цягніку, чаму-ж ня можа адчуваць „радасьці жыцьця". Дай Бог такую радасьць кожнаму да сьмерці.

## „ЦІ ЁСЬЦЬ ПОЛЬШЧА МАЦАРСТВАМ?"

*Карэспандэнт некалькіх польскіх газэтаў* у Парыжы Казімер Смогаржэўскі зьмяшчае у „Слове" (нумар 41) цікавую карэспандэнцыю *пад гэткім загалоўкам.*

Як ведама, усе палякі залічаюць Польшчу да „мацарства", гэта ёсьць „вялікае дзяржавы", *як напр. Англія і Амэрыка:*

„Калі абмяжуемся Эўропаю і ня будзем лічыць Расеі, піша Смогаржэўскі, дык па *займаемай плошчы Польшча стаіць на чацьвертым* мейсцы (388 тыс. кв. км.) пасьля Францыі (550 т.), Гішпаніі (505 т.) і Нямеччыны (470 т.).

Па ліку на жыхароў—пятае мейсца (30 міл.) пасьля Нямеччыны (63 м.), Англіі (45 м.), Францыі (40,7 м.) і Італіі (40,5 м.).

Але адна плошча і лік насельніцтва яшчэ не характэрызуюць мацарства. Гэта яшчэ залежыць ад удзелу у матэр'яльным і духовым жыцьці цывілізаванага сьвету. У гэтым адношаньні Польшча далёка стаіць у хвасьце за вялікімі дзяржавамі.

Гандаль Польшчы складае 1 прац. сусьветнага гандлю, у той час як Францыі — 8 прац., Нямеччыны—9 і Англіі—14.

Грашовы рух на галаву: ўва Францыі:—487 зл., Англіі—364, Нямеччыне—178 і Польшчы—43 зл.

Даходы на галаву: у Англіі — 3682 зл., Нямеччыне—1,943 зл., Францыі—1878 і Польшчы—666 зл.'

Дзяржаўны бюджэт на галаву: у Англіі—735 зл., Францыі—313, Нямеччыне—310 зл. і у Польшчы—76 зл.

Адсюль відаць, што ў матэр'яльным адношаньні Польшча далёка ня можа зраўняцца з вялікімі дзяржавамі. Польшча бедная.

З культурнага боку гледжаньня Польшча не перавышае шмат меншых дзяржаваў. Польшча не стаіць уперадзеэна ніякім полі творчае працы умысловае...

Хаця яшчэ мацарства духа не азначае палітычнага мацарства. Патрэбна яшчэ магутнасьць матэр'яльная. Палітычным мацар*ствам Польшча хоча* быць, але ім яшчэ ня ёсьць. Для гэта трэба працаваць і ашчаджаць.

## ПІСЬМО у РЭДАКЦЫЮ.

*Паважаны Пане Старшня і Рэдактар!*

Больш як два гады працую пад сьцягам Т-ва „Прасьвета", не належачы ані да якай з беларускіх партыяў (не належаў нават і да б. Бел. Нац. Рады і Партыі), акрамя толькі трохмесячнага пабыту у „Грамадзе" з якой выйшаў, а працую на культурна-прасьветным адраджэньні Беларуска народу, пад сьцягам „Прасьветы" і ёсьць як беларус-нацыяліст. Як Вы добра ведаеце, што я ня ёсьць камуністым і не зьяўляюся і „антыпанствоўцам" сучаснага *ладу. А паліцыя (і наагул улады)* трактуе мяне якраз і тым і іншым, вядзе пэўныя сьледзтвы і „дозур" *нада мной. Ня ведаю упрост, як я заслужыў* „антыпанствоўца і камуністага?" Ці хіба за тое, што працую на культурна-прасьветным полі свайго Народу? Ці за тое, што зьяўляюся беларусам, ды на кожным кроку бараніў і бараню сваю нацыянальнасьць так, як кожнаму патрэбна нацыялісту. Ну, хіба-ж за гэта?! І калі ў гэтым знаходзіцца мая віна „антыпанствоўства і кары-моры", я буду за яе адказываць і я да яе прызнаюся.

Вось, прашу, пав. пане Старшыня і Рэдактар, даць мейсца для вышэйшага ў часопісі „Грамадзянін".

З пашанай *Павал Асіповіч*

Старшыня аддзелу ім. Я. Купалы і інструктар па Маладэчанскаму і Вялейскаму пп. Т-ва „Прасьветы".

## З ПАДСЛУХАНЫХ ГУТАРАК.

### Паставілі на ногі.

— Чуў?! Кажуць, быццам, Ваяводзтва паставіла на *ногі ўсіх сваіх палёнафілаў?!*

— Але, братачка паставіла — ўсе яны цяперака ад раніцы цэлы дзень на нагах, шукаючы заробку ці залатоўкі на абед.



Рэдактар-Выдавец Т. ВЕРНІКОЎСКІ. ЛІТАРАМІ У. ЗНАМЯРОЎСКАГА, ФІЛЯРЭЦКАЯ 12.
ДРУК „РАХ", ВУЛ. СЬВ. ІГНАТА 5.